Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.

МАСАВА-ПАЛІТЫЧНЫ ШТОТЫДНЁВІК

# Газета Слонімская

№25 (315) 19 — 25 чэрвеня 2003 г. Наклад 11.200 экз. Кошт 400 руб.

«ГАЗЕТУ СЛОНІМСКУЮ» ЧЫТАЮЦЬ
Слонім,
Зэльва,
Дзятлава,
Масты,
Ваўкавыск,
Шчучын,
Ліда,
Гродна,
Баранавічы,
іншыя гарады Беларусі,
а таксама на HTTP://gs.promedia.by

Зменены расклад руху гарадскога транспарту.
Стар. 22

## АНОНС

СЛОНІМ

Забастоўка — апошні аргумент, каб атрымаць заробак.

2 стар.

СЛОНІМ

Забытая беларуская мова. Дзе будуць вучыцца дзеці шчырых беларусаў?

4 стар.

БЕЛАРУСЬ

В Беларуси будут новые номерные знаки.

8 стр.

ЭКОЛОГИЯ

# ГДЕ ЖИВЁМ, ТАМ И ГАДИМ

Фота Віталя ГІЛЯ

**На прошлой неделе в Гродно состоялась очередная сессия Гродненского областного Совета депутатов. На ней был рассмотрен вопрос о мерах по благоустройству территорий населенных пунктов и наведению порядка на земле...**

В докладе первого заместителя председателя облисполкома Ивана Данченко прозвучали не очень лестные слова по данному вопросу, касающиеся Слонимщины и её соседей. Отсуствует контроль за удалением твёрдых бытовых отходов со стороны сельских Советов в Лунненском сельском Совете Мостовского района, в Сынковичском Зельвенского района, в Жировичском Слонимского района. Нет узаконенных свалок для складирования отходов в д. Самаровичи Зельвенского района, нарушаются правила эксплуатации мини-полигонов в деревнях Деревная, Поречье и Василевичи Слонимского района.

До сих пор имеют место факты, когда навозная жижа вместо полей попадает в окружающую среду, загрязняя как почву, так и реки.

По этому вопросу административный штраф получил руководитель свинокомплекса «Самаровичи» Зельвенского района, предъявлен иск свинокомплексу «Искра» колхоза им. Карбышева Мостовского района.

Много претензий по содержанию территорий хозяйств, машинных дворов, лесопильных цехов. Так в колхозе «Рассвет» Зельвенского района территория мехдвора загрязнена нефтепродуктами, за забором валяются металлолом, изношенные шины и аккумуляторы.

Вызывает беспокойство состояние земель в садоводческих товариществах. По причине неиспользования гражданами земельных участков по целевому назначению последние зарастают сорной растительностью, а порой становятся и местами для несанкционированых свалок бытового мусора. Из имеющихся в области 75257 садовых участков выявлено 1636 неиспользуемых, из них —153 в Слонимском районе.

**Сергей ЧИГРИН**

КУРСЫ ОБМЕНА ВАЛЮТ ПО СОСТОЯНИЮ НА 17 ИЮНЯ 2003 ГОДА

| | Покупка | Продажа |
|---|---|---|
| **"Беларусбанк"** | | |
| 1 USD | 2025 | 2060 |
| 1 EURO | 2380 | 2480 |
| 1 ZL | 525 | 560 |
| 1 RUR | 65 | 68 |
| **оао "Белпромстройбанк"** | | |
| 1 USD | 2035 | 2065 |
| 1 EURO | 2390 | 2470 |
| 1 ZL | 525 | 560 |
| 1 RUR | 65,5 | 68 |
| **"Белагропромбанк"** | | |
| 1 USD | 2025 | 2060 |
| 1 EURO | 2380 | 2460 |
| 1 ZL | 480 | 560 |
| 1 UAH | 350 | 400 |
| 1 RUR | 65 | 68 |
| **Нацбанк РБ** | | |
| 1 USD | 2052 | |
| 1 EURO | 2435,83 | |
| 1 RUR | 67,36 | |

ВЁСКА

# "У НАС БУДЗЕ ЗАБАСТОЎКА"

**На мінулым тыдні званкі з такімі паведамленнем паступалі ў рэдакцыю нашай газеты з калгасаў "Дружба" і імя Леніна.**

У гэтых гаспадарках заробак не плоцяць ужо чацвёрты месяц. Не на шмат лепшая сітуацыя з выплатай зарплаты і ў іншых калгасах раёна. Многія вяскоўцы не маюць чым аплаціць камунальныя паслугі, няма грошай на хлеб. Апошні аргумент, каб атрымаць заробак, лічаць калгаснікі, — гэта забастоўка.

Матэрыяльнае становішча большасці сельгаспрадпрыемстваў краіны на сённяшні дзень зусім не зайздроснае. У вышэйшых эшалонах улады гэта цудоўна і разумеюць, і ведаюць, але нейкіх пазітыўных зрухаў у аграрнай палітыцы не назіраецца. Затое традыцыйна зверху ўніз спускаюцца пастановы, загады, патрабаванні разлічыцца з сельскімі працаўнікамі, якія не атрымліваюць заробак па тры-чатыры-пяць месяцаў. Так 3 чэрвеня на сваім пасяджэнні Прэзідыум Савета Міністраў рэспублікі паставіў перад Мінсельгасхарчам і аблвыканкамамі задачу выплаціць запазычанасці па заробку работнікам аграпрамысловага комплексу краіны да 15 чэрвеня. Выкананне гэтай задачы знаходзіцца на кантролі прэм'ер-міністра рэспублікі Генадзя Навіцкага.



*Барана ты мая, барана, і каму цябе аддадуць?*

Фота IREX/ProMedia

Паставіць задачу лёгка. А вось знайсці грошы на яе выкананне пры пустой калгаснай касе — справа іншая. У апошнюю дэкаду траўня па сістэме Мінсельгасхарчу было выплачана 6,3 мільярда рублёў запазычанасці па зарплаце за студзень – сакавік бягучага года, што склала толькі 27,1 працэнта агульнай запазычанасці ў дадзенай галіне народнай гаспадаркі. Па стану на 30 траўня патрэбна было выплаціць яшчэ 17 мільярдаў рублёў даўгоў па заробках.

Па дадзеных сельгасупраўлення Слонімскага райвыканкама, агульная запазычанасць у аграрным сектары па зарплаце на 13 чэрвеня складала 608 мільёнаў рублёў. За люты 6 гаспадарак павінны былі сваім працаўнікам 75 мільёнаў рублёў, за сакавік 11 гаспадарак завінаваціліся 174 мільёны і за красавік не разлічыліся 16 гаспадарак на суму 359 мільёнаў рублёў.

У размове з карэспандэнтам "ГС" начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама Валерый Гузень адзначыў, што калгасы ў сённяшніх умовах павінны самі разлічваць свае сілы і магчымасці так, каб не застацца ў пройгрышы. А адной з асноўных прычын нявыплаты заробку Валерый Яўгеньевіч назваў запазычанасць малаказавода перад гаспадаркамі раёна за здадзенае малако, якая складала амаль 380 мільёнаў рублёў. Аднак, на думку Валерыя Гузеня, цяперашняя праца Слонімскага завода сухога і абястлушчанага малака ў структуры Ваўкавыскага Белакта павінна палепшыць становішча з разлікамі. Толькі адразу, адзначыў начальнік сельгасупраўлення, вырашыць праблему запазычанасці па зарплаце не ўяўляецца магчымым. Патрэбна працаваць так, каб можна было браць і вяртаць крэдыты. А для гэтага, лічыць Валерый Гузень, у працы кіраўнікоў сельгасгаспадарак павінен быць творчы падыход да справы. На яго думку, сёння патрэбна вельмі глыбока думаць і пралічваць, што, дзе і колькі садзіць і сеяць, колькі і якіх мець работнікаў, і які заробак ім плаціць, каб жыць па сродках і не даводзіць справу да забастовак, якімі праблемы не вырашыш. У той жа час Валерый Яўгеньевіч зазначыў, што кошт энергарэсурсаў сёння з'яўляецца непасільным для вытворцаў сельгаспрадукцыі.

Такім чынам, як не круці, а супастаўленне закупачных цэнаў на прадукцыю вяскоўцаў з коштамі тэхнікі, паліва і запчастак да яе, мінеральных угнаенняў, электраэнергіі, газу і іншага выходзіць не на карысць селяніну. А гэта ўжо палітыка дзяржавы. І як вынік, мы маем тое, што маем.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

РЭАРГАНІЗАЦЫЯ

## З 1 ЛІПЕНЯ КАЛГАСАЎ НЕ БУДЗЕ

**Да першага ліпеня бягучага года ў Беларусі завершыцца працэс рэарганізацыі калгасаў. Гаспадаркі ў абсалютнай сваёй большасці застануцца сельгаспрадпрыемствамі з калектыўнай формай уласнасці, але яны больш не будуць называцца калгасамі.**

Як паведаміў карэспандэнту "ГС" начальнік планавага аддзела сельгасупраўлення райвыканкама Вацлаў Ждановіч, усе калгасы на Слонімшчыне прайшлі перарэгістрацыю і атрымалі ў Міністэрстве юстыцыі неабходныя дакументы. Але не ўсе з іх захавалі самастойнасць. Так калгас "Чырвоная зорка" далучыўся да фермерскай гаспадаркі "Раса-Аква". Раённае ўнітарнае сельгаспрадпрыемства "Шылавічы" далучана да дачэрняга прадпрыемства "Сельгастэхніка", куды таксама адышла частка земляў Жыровіцкай гатунка-выпрабавальнай станцыі. Частка земляў калгаса "Міжэвічы" перададзена раённаму ўнітарнаму сельгаспрадпрыемству "Новадзевяткавічы" і калгасу імя Суворава.

Усе калгасы раёна будуць перайменаваны ў сельскія вытворчыя кааператывы (СВК). Пры гэтым, назвы сельгаскааператываў не павінны паўтарацца. Так, напрыклад, СВК "Дзеражная" павінен быць толькі адзін у рэспубліцы. Гаспадаркі, якія раней насілі імёны Леніна, Дзяржынскага і іншых савецкіх і партыйных дзеячоў, больш, згодна заканадаўства, не павінны паўтарацца ў назвах. Цяпер на ўсю Беларусь можа быць толькі адзін СВК імя Леніна, як і адзін сельскі вытворчы кааператыў, скажам, "Рассвет".

**Мікола КАНАНОВІЧ**

УРА! КАНИКУЛЫ

# И НАЧАЛОСЬ ЛЕТО В «ИГРОВИКЕ»

**Для кого-то, возможно, каникулы — это прекрасная возможность поваляться подольше в кровати, вволю наиграться в «стрелялки» в компьютерных клубах или просто день-деньской пропадать с друзьями во дворе.**

Для юных же спортсменов лето начинается со спортивных лагерей, в которых игра и отдых переплетаются с тренировками и возможностью поднабраться спортивного мастерства. Во многих детских лагерях на открытие сезона готовятся концертные программы с игровыми и развлекательными номерами, которые готовят сами же дети. А вот в спортивном лагере «Игровик» (при ДЮСШ №1) ребята, по традиции, демонстрируют своим сверстникам, чему научились на протяжении долгого учебного года. Это лето тоже не стало исключением. И воспитанники, и тренера, и обслуживающий персонал школы, а вместе с ними и корреспонденты «ГС» с интересом и удовольствием наблюдали за выступлением юных боксеров, занимающихся у тренеров Валерия Торжецкого и Владимира Пирожника. А гимнастки Елены Макарской и вовсе никого равнодушными не оставили.



*Выступает гимнастка Катя Игнатик*

Фота Віталя ГІЛЯ

Теперь у ребят две недели нескучной жизни. Но приятное они уже не преминули совместить с полезным. К примеру, девочки из отделения художественной гимнастики с экскурсией посетили редакцию нашей газеты и даже выступили в роли журналистов, забросав специально подготовленными вопросами наших корреспондентов. Но об этом мы расскажем в другой раз.

**Валерий КОВАЛЕНКО**



*"Удар, ещё удар..." (слева — Александр Дрозд, справа — Игорь Михальчик)*

Фота Віталя ГІЛЯ



*"Вот чему мы научились!" (На первом плане — Солдаткина Валя, справа — Юндель Настя)*

Фота Віталя ГІЛЯ

ЗДАРЭННЕ

## ЗЛОДЗЕЯМІ АКАЗАЛІСЯ ВАЙСКОЎЦЫ

**Нядаўна ў выніку пошукавых мерапрыемстваў супрацоўнікі аддзела крымінальнага вышуку слонімскай міліцыі раскрылі злачынную групу, якая працяглы час займалася крадзяжамі ў Слоніме.**

А стварылі крымінальны дуэт двое вайскоўцаў-кантрактнікаў слонімскай брыгады. Днём яны спраўна неслі вайсковую службу, а ноччу выходзілі "на справу".

Так у ноч на 30 кастрычніка 2002 года яны абрабавалі бар "Мястэчка", адкуль вынеслі спіртных напояў і іншых матэрыяльных каштоўнасцяў на суму больш як адзін мільён рублёў.

Аператыўнікі таксама ўсталявалі, што ў ноч на 16 лістапада мінулага года гэтыя ж злодзеі-вайскоўцы ўгналі іншамарку з вуліцы Косаўскі тракт. Аўтамабіль яны разукамплектавалі. Частка ўкрадзенага з машыны знойдзена.

Па словах следчых, за імі значацца таксама і іншыя злачынствы, па якіх праводзіцца праверка. Пасля завяршэння следства злодзеям прыйдзецца адказваць па закону.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

НАВІНЫ

## БІБЛІЯТЭКІ СТАНОВЯЦЦА ПЛАТНЫМІ

**Як сказала карэспандэнту "ГС" дырэктар ЦБС Ларыса Рэпінская, платнымі паслугамі сёння карыстаюцца ў бібліятэках горада і раёна тыя кнігі і перыядычныя выданні, якія выдаюцца з камерцыйнага фонду, з чытальнай залы, а таксама галіновая літаратура.**

Грошы трэба заплаціць і за тое, калі нехта цікавіцца часопісамі павышанага попыту, як, напрыклад, "Бурда", "Крестьянка", "За рулём", "Сандра" і іншыя.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## СВЯТА МЕДЫКАЎ

**У мінулую пятніцу ў Зэльвенскім раённым Доме культуры адбылася ўрачыстасць, прысвечаная Дню медыцынскага работніка.**

Усіх медыкаў раёна з іх прафесійным святам павіншаваў галоўны ўрач Зэльвенскага ТМА Андрэй Фрэйберг. Затым для ўсіх прысутных была падрыхтавана святочная праграма.

У тым ліку прайшоў і традыцыйны конкурс "Міс Здароўе", пераможцай якога стала Сняжана Шэлест. Дарэчы, да гэтага Сняжана заваявала тытул "Віцэ-Міс" на занальным конкурсе "Міс Здароўе-2003", які праходзіў у Бераставіцы.

**Наталля ГЛУШЭНЯ**



**Наш Web-адрес: http://gs.promedia.by**

ГОРОД

# НОВАЯ ШОССЕЙНАЯ ПОЯВИТСЯ К 1-МУ СЕНТЯБРЮ



Фото Віталі ГІЛЯ

*Улица Шоссейная 17 июня 2003 года. Какой она будет 1 сентября?*

**Почти две недели назад рабочие дорожного участка, расположенного в деревне Воробьевичи, под руководством начальника предприятия Ивана Германа, начали реконструкцию Шоссейной улицы.**

В планах у строителей — расширить улицу на несколько полос, положить асфальт. А сотрудники Слонимского водоканала сделают ливневую канализацию.

А пока что, до 1 сентября этого года (именно к этому сроку Шоссейная должна приобрести новый вид), весь грузовой транспорт отправлен в объезд через микрорайон Энка, а легковой — через центр города.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

ЗДАРЭННІ

## КРАДУЦЬ ВЕЛАСІПЕДЫ І МАТАЦЫКЛЫ

**Мінулы тыдзень быў адметны крадзяжамі лёгкіх транспартных сродкаў.**

Так, пакуль чалавек схадзіў у краму на вуліцы Чырвонаармейскай, хтосьці паспеў з'ехаць на яго веласіпедзе. Яшчэ ў аднаго слонімца двуколку ўкралі проста са двара ўласнага дома, што на вуліцы Пушкіна. А ў жыхара вёскі Шылавічы невядомыя злодзеі з хлява выкацілі стары матацыкл "Іж-Планета-3". Па фактах крадзяжоў транспартных сродкаў праводзяцца праверкі.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## НАРАБАВАНАЕ ЗНАЙШЛІ НА МОГІЛКАХ

**Днямі ў в. Крамяніца Зэльвенскага раёна была абрабавана крама.**

Злодзеі вынеслі з крамы некалькі скрыняў са спіртнымі напоямі. Міліцыя затрымала злачынцаў, калі тыя хавалі нарабаванае на мясцовых могілках. Рабаўнікамі аказаліся мясцовыя жыхары, адзін з якіх нядаўна выйшаў з месцаў пазбаўлення волі.

**Наталля ГЛУШЭНЯ**

## АХВЯРА ВАДЫ

**Лета яшчэ толькі пачалося, а вада ўжо збірае ахвяры.**

У Дзятлаве на Верхнім возеры ўтапіўся малады малады чалавек, якому было ўсяго трыццаць адзін год.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**





КРИМИНАЛ

# И ЯЙЦА ПРИНОСЯТ ХОРОШИЙ ДОХОД

**Слонимский межрайонный отдел Управления Департамента финансовых расследований по Гродненской области за первый квартал этого года выявил 6 преступлений по разным статьям. В бюджет поступило дополнительно более 45 миллионов рублей.**

Так, в январе в результате проверки переработки сельскохозяйственной продукции было установлено, что минчанин Александр Плешань, не имея свидетельства индивидуального предпринимателя, от имени московской фирмы «ПродАстрон» заключил договор с РУП «Новоельнянский КХП» Дятловского района. В Новоельню «предприниматель» поставил рыбную муку и минеральные корма, а в качестве расчёта получил куриные яйца. Эти яйца молодой человек реализовывал на рынках Минска. И сумма от реализации получилась внушительной — около 119 миллионов рублей. В связи с этим преступлением против А.Плешаня возбуждено уголовное дело. В апреле дело было рассмотрено в суде Дятловского района. Плешань получил два года исправительных работ с удержанием 25 % из заработка в доход государства.

Такое же наказание получил и ещё один «предприниматель» Александр Фурсевич, используя реквизиты и бланки бухгалтерских документов московского ООО «Сайн торг», который поставлял на РУП «Новоельнянский КХП» фуражную кукурузу и получал крупный доход от реализации куриных яиц.

11 марта текущего года было возбуждено дело в отношении гражданина Осейчука Н.В. Без государственной регистрации предпринимательской деятельности он использовал реквизиты и бланки бухгалтерских документов ОДО «Каравелла» Минского района и поставлял на СКП «Нива» Дятловского района фуражное зерно. А взамен получил доход в виде свиней живым весом на общую сумму 33,6 миллиона рублей.

Индивидуальный слонимский предприниматель Любовь Айвазян осуществляла розничную торговлю мясными продуктами на Брестской улице по заведомо подложному удостоверению о качестве товара Кричевского мясокомбината. Против неё было возбуждено уголовное дело, и предприниматель осуждена к 200 часам общественных работ.

Всего на некоторое время удалось обхитрить «студентке» Фёдоровой Н. приёмную комиссию Жировичского аграрно-технического колледжа. В ноябре 2001 года она с целью получения преимущественного права при зачислении на заочное отделение на условиях бюджетной оплаты по специальности «Электрификация сельского хозяйства» изготовила и представила в приёмную комиссию колледжа заведомо подложную выписку из трудовой книжки о работе с 16 марта 2001 года якобы на должности электромонтёра 3-го разряда Слонимского ГУП «ЖЭС-2». Это дало ей право первоочередного зачисления в колледж и получения образования без внесения платы за обучение. Но не тут-то было. В мае в отношении её было возбуждено уголовное дело.

Слонимчанка Павлова С. осуществляла перевозку по территории Беларуси 510 пачек сигарет, не маркированных в установленном порядке акцизными марками РБ и без документов, подтверждающих легальность их приобретения. Павлова получила штраф, у неё конфисковали в доход государства табачных изделий на сумму 239 тысяч рублей.

В целом, Слонимским отделом финансовых расследований за первый квартал этого года было передано в реализацию 1094 пачки сигарет на общую сумму 712 тысяч рублей. Передана в реализацию мебель на общую сумму 7,5 миллиона рублей. По решению хозяйственного суда Гродненской области в доход государства обращена бумажная продукция ОАО СКБЗ «Альбертин» в количестве 597 пачек на сумму 14,4 миллиона рублей, подлежащая отгрузке в адрес не осуществляющего финансово-хозяйственную деятельность ТУП «Дентастар» из Молодечно...

Этот список крупных и мелких финансово-экономических преступлений можно продолжать. Люди сегодня идут на всё, чтобы только пополнить свои карманы, нарушая при этом законность и служебную дисциплину. И, конечно же, попадаются, потому, как гласит пословица, «как верёвочке не виться — конец всё же найдётся».

**Сергей ЧИГРИН**

ПОШТА

# ДЗЕ НАВУЧАЦЬ ДЗІЦЯ ПА-БЕЛАРУСКУ?

У нашай краіне склаліся такія абставіны, што беларуская мова з кожным годам выцясняецца са школы. Дзеці беларусаў па сутнасці пастаўлены чыноўнікамі ад адукацыі ў такія ўмовы, што не маюць магчымасці атрымліваць адукацыю на сваёй роднай мове пасля сумніўнага рэферэндуму аб увядзенні другой дзяржаўнай мовы — рускай.

Руская мова выцясніла беларускую мову з усіх сфераў ужывання. Яе вы не пачуеце на ўроках геаграфіі, біялогіі, гісторыі, фізікі і іншых прадметаў.

Уся дакументацыя ў школах горада вядзецца на рускай мове. А згодна з апошнім перапісам, у нашай краіне беларускую мову назвалі роднай 86% насельніцтва. Адсюль лагічна было б і будаваць сістэму адукацыі, зыходзячы з вынікаў перапісу. На жаль, гэтага не адбываецца. Наадварот, інтэнсіўна праганяецца родная мова з Беларусі. Парушаецца канстытуцыйная права нашых грамадзян атрымліваць адукацыю на роднай мове. Назавіце такую краіну ў Еўропе, дзе яшчэ абарыгены не навучаюцца ў школах на сваёй роднай мове?


Фота Віталя ГЛЯ

*Не пакідайце сваёй мовы*

Толькі ў нас, у Беларусі, адбываецца такая моўная дыскрымінацыя мясцовага насельніцтва.

Я, жыхар Слоніма, Ліцьвін Уладзімір звярнуўся ў Слонімскі райвыканкам з просьбай указаць школу, дзе дзіця зможа навучацца на роднай мове.

Вось, які атрымаў адказ:

*"Упраўленне адукацыі Слонімскага райвыканкама паведамляе, што да 01.06.2003г. у агульнаадукацыйных школах горада ідзе камплектаванне падрыхтоўчых класаў, у рамках якога праводзіцца анкетаванне бацькоў з мэтай вылучэння адукацыйнага маршруту кожнаму дзіцяці, у тым ліку і для вызначэння асноўнай мовы навучання (рускай ці беларускай).*

*Упраўленне адукацыі будзе гатова даць адказ у чэрвені месяцы бягучага года, калі паступіць і прааналізуецца інфармацыя па гарадскіх школах аб колькасці дзяцей, бацькі якіх вызначылі для свайго дзіцяці асноўнай мовай навучання беларускую.*

*Начальнік упраўлення Г.І. Шмялёва".*

З адказу чыноўнікаў бачна, што яны яшчэ будуць вывучаць гэтае пытанне, замест таго, каб перавесці ў горадзе не менш за шэсць школ на беларускую мову адукацыі. Гэта было б справядліва і па логіцы жыцця, і па асноўнаму закону — Канстытуцыі.

Колькі ж трэба чакаць гэтага?

Мы, беларусы, не павінны мірыцца з доляй, якую нам адводзяць прышлыя люд і свае манкурты.

Звяртаемся да ўсіх жыхароў Слоніма, для якіх неабыякавы лёс іх дзяцей і будучыня Бацькаўшчыны, напісаць заявы ў школу свайго мікрараёна ў падрыхтоўчыя і першыя класы для навучання на роднай мове. Звяртайцеся па кантактных тэлефонах: 4-49-02 Ліцьвін Уладзімір, 4-53-85 Ракевіч Мікалай.

**Мікалай РАКЕВІЧ, Уладзімір ЛІЦЬВІН**

ЮРИСТ



## ВРЕМЕННЫЕ РАБОТНИКИ И ПРЕМИРОВАНИЕ

**Временными признаются работники, которые приняты на работу на срок до двух месяцев, а для замещения временно отсутствующего работника, за которым сохраняется место работы (должность), – до четырех месяцев (ч.1 ст. 292 ТК РБ).**

Наниматель обязан (ст.54 ТК РБ) ознакомить работника (в том числе и временных работников) под роспись с порученной работой, условиями, оплатой труда (надбавки, доплаты, вопросы премирования), разъяснить его права и обязанности; ознакомить под роспись с коллективным договором, правилами внутреннего трудового распорядка; провести вводный инструктаж по охране труда; издать на основании ранее заключенного трудового договора приказ (распоряжение) о приеме на работу и объявить работнику под роспись; завести (заполнить) трудовую книжку. Содержание и условия трудового договора определяются нанимателем и работником с соблюдением обязательных требований, предусмотренных статьей 19 ТК РБ.

На временных работников, в том числе занятых на сезонных работах, распространяется действие законодательства о труде РБ с изъятиями, предусмотренными главою 23 ТК РБ (например, на обеспечение равных с иными работниками условий по оплате труда)(ч.2 ст. 292 ТК РБ).

Показатели и условия премирования (в том числе и временных работников), размеры премий по той или иной профессии (должности), в том числе и основания уменьшения или лишения премий, предусматриваются в положениях об оплате труда и премировании, коллективных договорах, соглашениях. На основании таких положений, коллективных договоров, соглашений у работников при выполнении показателей и условий премирования возникает право требовать от нанимателя премий, а у нанимателя – обязанность уплатить причитающуюся сумму работнику (не позднее месячного срока после окончания отчетного периода).

На практике некоторые наниматели устанавливают условия трудового договора, которые ухудшают положение временных работников по сравнению с законодательством о труде (например, увеличение полных норм продолжительности рабочего времени сверх 40 часов в неделю; условие о не премировании временных работников в связи с тем, что они временные работники). Хотя ТК РБ и не установил процедуру признания недействительными отдельных условий трудового договора, ухудшающих положение работника по сравнению с законодательством, коллективным договором, соглашением, однако, на наш взгляд, такие условия трудового договора являются недействительными в силу прямого указания в ТК РБ.

**Сергей ГЕРАСИМЧИК, юрисконсульт «Газеты Слонімскай»**

ПОШТА

# МЫ АДСТОЙВАЕМ НАША ЗАКОННАЕ ПРАВА

Нейк пачула ў цягніку размову двух юнакоў. Адзін з іх казаў, што руская мова вельмі засмечана мацюкамі, і дадаў, што дзесьці ў Афрыцы ёсць такая мова, у якой няма ніводнага пошаснага слова.

Мне тады вельмі хацелася нагадаць маладым людзям, што наша родная беларуская мова такая чыстая, узнёслая і велічная, што ў ёй няма ніводнага мацюка.

Прыгадаўшы гэты факт, разумееш як мала мы, беларусы, ведаем і любім сваю мову і сябе. Хто калі на дзяржаўным узроўні спрыяў развіццю нацыянальнай свядомасці беларусаў? Хіба толькі ў першыя перыяды нацыянальнага адраджэння былі спробы вяртання да сваёй гісторыі, мовы, культуры, каб паразумецца са сваёй душой.

Я думаю, што беларусы — людзі ганаровыя ( русск.-почётные). Відаць, з-за гэтага карыстаюцца рускай мовай у грамадскіх месцах і смяюцца з тых, хто гэтага не робіць. Наша ганаровасць — ад нашай слаўнай мінуўшчыны, ад працавітасці. Аднак ганаровасць наша шкодзіць нам у справе набліжэння да роднай мовы. Зараз востра стаіць пытанне захаваць беларускую культуру і мову. Успамінаюцца радкі з верша Янкі Купалы "Прарок":

*Пара у рукі браць паходні,*
*Уставаць, ісці ноч рассвятляць!*
*Бо што не возьмеце сягоння,*
*Таго і заўтра вам не ўзяць.*

Таварыства беларускай мовы спрыяе таму, каб справа адраджэння, якая пачалася ў 90-ыя гады, не заціхала. Беларуская душа стамілася, засумавала без свайго роднага, якое павінна грэць і весяліць сэрца. Аб гэтым сведчыць апошні перапіс насельніцтва Беларусі ў 1999 годзе, калі 86% насельніцтва рэспублікі назвалі беларускую мову роднай, а 37% жыхароў краіны засведчылі, што яны штодня размаўляюць па-беларуску. ТБМ звярнулася ў Міністэрства адукацыі РБ, дзе была прынята Пастанова №48 "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі". Там, у прыватнасці, сказана: "У кожным раённым цэнтры адчыніць не менш за адну школу з беларускай мовай навучання".

А як склаліся справы зараз? У Беларусі на 118 раённых цэнтраў прыпадае толькі 52 школы з беларускай мовай навучання.

У нашым горадзе ўсе школы "рускія".

Падчас правядзення "круглага стала" па праблеме беларускай мовы ў рэгіёне ў сакавіку бягучага года, намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі райвыканкама Ганна Канапінь засведчыла, што некалькі год таму планавалася адкрыць у Слоніме школу з беларускай мовай навучання. Аднак паступіла заява ад бацькоў, якія былі супраць гэтага.

Слонімская суполка Таварыства беларускай мовы звяртаецца да ўсіх шчырых беларусаў Слонімшчыны накіроўваць свае патрабаванні на стварэнне беларускамоўнай школы ў Слоніме на адрас суполкі ТБМ: г.Слонім, вул.Брэсцкая, 103/1, кв.61.

У 14 артыкуле Канстытуцыі Беларусі сказана: "дзяржава рэгулюе адносіны паміж сацыяльнымі, нацыянальнымі і іншымі супольнасцямі на аснове прынцыпаў роўнасці перад законам, павагі іх правоў і інтарэсаў". ТБМ спрыяе ўвядзенню ў жыццё прынцыпу роўнасці перад законам усіх моў, у тым ліку і беларускай.

**Таццяна ТРАФІМЧЫК, старшыня Слонімскай суполкі ТБМ**

МИНИ-ИНТЕРВЬЮ

# Диана ЛУГИНА: "Я НАЧАЛА ПЕТЬ С ШЕСТИ ЛЕТ"

**На прошлой неделе в Слонимском районном доме культуры прошел сольный концерт юной певицы Дианы Лугиной. Автор этих строк встретился с ней и задал несколько вопросов.**

**— Диана, расскажи, пожалуйста, немного о себе.**

— Мне 16 лет. Я закончила десять классов слонимской восьмой школы. Петь начала с шести лет, сразу, как пошла в школу. Моим первым музыкальным педагогом была Татьяна Анатольевна Юрчак. Спустя два года меня пригласила в студию "Шанс" её руководитель Лилия Павловна Марутик.

**— Твои первые выступления перед серьёзной аудиторией, мне кажется, тебе тоже запомнились?**

— Конечно. В шесть лет я участвовала в конкурсе "Все мы родом из детства", также в качестве гостьи на музыкальном фестивале "Молодечно-2001". Под аккомпанемент школьного оркестра исполняла народные песни. Еще пела на конкурсе "Спяваем разам з аркестрам".

**— А как возникла идея сольного концерта?**

— Мои родители терялись в догадках, что мне подарить на день рождения. Узнав о моем желании, они сделали чудо и организовали концерт. Моя мечта сбылась.

**— Твои любимые музыкальные исполнители?**

— Из числа групп мне нравятся "Песняры" и "Премьер-министр".

**— Планы на будущее?**

— Летом буду готовиться к поступлению в музыкальное училище. А если не повезет, продолжу учебу в школе.

**Беседовал Дмитрий НИЧИПОР**



*Диана Лугина*

ЛИДА

## ПРЫЖОК В НЕИЗВЕСТНОСТЬ

**Прокуратура Ленинского района Гродно закончила разбирательство по факту гибели депутата областного Совета, главного инженера Лидского молочно-консервного комбината Андрея Маевского, который 22 апреля 2003 года выбросился из окна туалета, расположенного на четвертом этаже здания УВД Гродненского облисполкома.**

Как было установлено в результате расследования, погибший выпрыгнул в окно по собственной воле, в силу обвинения в получении крупной взятки. На этом основании прокуратура вынесла постановление о прекращении предварительного расследования ввиду отсутствия состава преступления.

**Сергей САЦУК, БДГ**

ГРОДНО

## В КОГТЯХ ГОСУДАРСТВЕННОЙ ЦЕНЗУРЫ

**Неожиданное продолжение получил скандал вокруг запрещения показа в Гродненском областном драматическом театре спектакля «Одинокий Запад».**

Подал заявление об увольнении главный режиссер и художественный руководитель театра Олег Жугжда. Причиной этого стала невозможность найти взаимопонимание с начальником Управления культуры Гродненского облисполкома Людмилой Кодевич.

**Андрей ОДЛЯНИЦКИЙ, «Народная Воля»**

АСАБІСТАЕ МЕРКАВАННЕ

# ЧАМУ РАГУЛЮ ВЯДУЦЬ НА ЗАБОЙ?

Успамінаю дзяцінства. Цёплы летні вечар настоены на паху мурагу, копы якога квактухамі расселіся на абмежках, нагрэтага за дзень бульбоўніку і розных кветак, якіх у нашым агародчыку было вялікае мноства. Седзячы на ганку, я чую гукі засынаючага дня: недзе брэша сабака, скрыпіць корба, пры дапамозе якой суседка цягне з калодзежа ваду, рыкае цяля. Але самы галоўны і радасны для мяне гук даносіцца з хлява, куды мама пайшла з дайніцай. Спачатку аб дно моцна звіняць пахучыя бялюткія струны малака. З кожнай хвілінай яны становяцца цішэйшымі, і я, стомленая работай і гульнямі і ўжо амаль засынаючы, уяўляю, як у вядры пеніцца сырадой. Хутка мама прыйдзе ў хату, працэдзіць малако на чысцюткую марлю і дасць мне поўны кубачак гэтага духмянага дзіва. Я з асалодай буду ўдыхаць яго жыватворны водар, які кароўка за цэлы дзень сабрала з розных траў і зёлак, што растуць на лузе і ў лесе.



*Выйшла прагуляцца*

Малако ратавала ад голаду, а карова ў той час была нібы член сям'і. Памятаю, як на ўсю вёску галасіла мая цётка Марыля з дарослымі дочкамі, калі іхняя карова, ідучы з пашы, раптам упала і з яе рота паваліла пена. Збегліся людзі, але рады не далі.

Кароў у нас трымалі ўсе. Нават удовы бегалі з касой і граблямі па ваколіцы з надзеяй прыдбаць які лапік сена. Нават старая дзеўка Стафанька, якая адзінока каратала век, трымала сваю рагулю пакуль магла сенаваць.

Калі з двара зводзілі карову, значыць да гаспадара прыйшла бяда. Без яе не толькі двор пусцеў, але і хата нейк сірацела. Тады ўсе, у каго была добрая душа, неслі гаспадарам малако, бо ведалі, што без яго вельмі цяжка.

Цяпер без кароў застаюцца не асобныя двары, а цэлыя вёскі. І няхай жыццё лягчэйшае, чым пасля вайны, аднак без каровы селяніну дрэнна, бо ад яе не толькі малако, але і смятана, і масла, і тварог. У горад не наездзішся. Ды хіба там купіш такое?

У апошні час значна зменшылася продаж лішкаў малака дзяржаве. Кажуць, што вяскоўцы збываюць каровак, бо не маюць сілы на іх сенаваць. Ды і пасвіць трэба. Гэта версія ляжыць на паверхні. Але ёсць і другая прычына: селяніну мала плацяць. Закупачная цана 230 рублёў за літр. Калі ж на перапрацоўчых заводах з яго выцісюць усё, што можна, то ў магазіне за беленькую вадзічку мы плацім ад 500 да 600 рублёў. А вось каб вясковец мог атрымаць за літр паўнацэннага сырадою хаця б па 400 рублёў, ён і яго дзеці, што жывуць у гарадах, моцна задумаліся б, весці сваю рагулю на забой ці не. Ад добрай каровы добры гаспадар у дзень мог бы здаваць па 20 літраў малака. І меў бы 8 тысяч рублёў. А за месяц – 240 тысяч. Такія грошы сённяшняму селяніну і не сніліся. Гэта быў бы добры прыварак да пенсіі ці зарплаты. Тады і дзеці з унукамі ў выхадныя дні кінуліся б у вёску, каб сенаваць ці адпасвіць чаргу, бо мелі б матэрыяльную зацікаўленасць, якая з'яўляецца асновай у гэтай справе. А так многія гарадскія дзеці кажуць: "Прадавай ты, тата, карову і не душыся з гэтым сенам. Мы табе згушчонкі прывязём". І яму няма куды дзявацца, хоць душа баліць па кароўцы.

Я то з арыфметыкай не вельмі ў ладах, але палічыла: за паўтара літра мінеральнай вады "Фрост" мы плацім ажно 700 рублёў. Гэта ў два разы больш, чым плацяць селяніну за малако. Дык вада ж з зямлі цячэ сама, а колькі трэба папрацаваць чалавеку, каб здабыць малако? Гэтага не ведае толькі той, хто не жыў у вёсцы, хто не пацеў на сенажаці, не карміў аваднёў, пасучы чаргу.

Бутэлька самага таннага віна каштуе столькі, колькі пяць літраў малака (і гэта ўлічваючы тое, што віно ў нас не можа купіць толькі апошні гультай). А за бутэльку звычайнай гарэлкі трэба прадаць ажно 15 літраў малака! І ніякага дзіва няма ў тым, што многія вяскоўцы цяпер сталі часта ўжываць "малако ад шалёнай каровы" (так яны называюць спіртное). П'юць у вёсках не ад разбэшчанасці ці гультайства, а ад безвыходнасці. Зарплату чакаюць па чатыры месяцы. Ды і колькі тае зарплаты.

Адзін фермер наняў на работу вясковых выпівохаў і даў ім добра зарабіць. Якое ж было здзіўленне, калі хлопцы перасталі піць. Так што яшчэ не ўсё страчана. Трэба людзей зацікавіць матэрыяльна, як некалі казалі, павярнуцца да іх тварам, і яны пакажуць, што здольны на многія добрыя справы.

Яшчэ гады тры таму назад па нашай вуліцы ганялі статак "гарадскіх" кароў, у якім налічвалася каля чатырох дзесяткаў галоў. Усе, хто жыў на ўскраіне і меў хлевушок, імкнуліся трымаць карову. Цяпер гэта ўжо не статак, а невялікі гурт, у якім усяго шэсць рагатых галоў. Пры тым, што ў горадзе малако разбіраюць то суседзі, то знаёмыя. Гаспадару нявыгадна. Да таго ж яшчэ былі праблемы з пашай. І таму вядуць рагуляў на забой. Сірацеюць двары. Баліць душа. Але другога выйсця пакуль няма.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

КРЫМІНАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ

# МАРЫЯ

Два дні Марыя жыла ў страху з жахлівым адчуваннем, што ўсё хутка скончыцца і яе чакае турма. Увесь гэты час думкі пра тое, што яна стала забойцай, не пакідалі жанчыну. Але сказаць пра гэта яна нікому не рашалася.

Сям'ю Марыі і Леанарда Шніпаў у вёсцы лічылі нешчаслівай. Прычынай гэтаму былі самыя Марыя і Леанард: муж з жонкай вельмі любілі выпіць, ніколі не адмаўляліся ад моцных напояў. Нярэдка былі выпадкі, калі пасля сумеснага распіцця спіртнога, той з іх, хто быў больш цвярозы, калаціў п'янейшага. Сваякі і знаёмыя калі-нікалі заўважалі сінякі і крывападцёкі на твары і руках Марыі і Леанарда, але тыя ніколі не гаварылі пра сапраўдную прычыну ўзнікнення іх. З-за п'янства бацькоў, з-за іх сварак трое непаўнагадовых дзяцей жылі ў бабулі, Марыінай маці. Родныя неаднаразова сварыліся на жонку з мужам за іх п'янкі і бойкі, але тыя на гэта аніяк не рэагавалі. Маўляў, у нас свая сям'я, самыя і разбярэмся. 25 снежня, якраз на каталіцкія Каляды, Марыя разам з Леанардам пайшлі да ягонай маці. Старая зламала руку, і нявестка з сынам прыйшлі дапамагчы ёй па гаспадарцы. Удзячная свякроў на развітанне дала Марыі і Леанарду літр самагонкі, пярловай крупы, капусты і бохан хлеба. Тры дні муж з жонкай святкавалі Каляды і за гэты час выпілі ўсю гарэлку, што была ў іх хаце. А вечарам 28 снежня папойка перарасла ў бойку. Як потым расказвала супрацоўнікам праваахоўных органаў Марыя Шніп, муж схапіў яе за вопратку, а яна спалохалася таго, што Леанард будзе яе біць, і рашыла нанесці ўдар першай. Адштурхнуўшы Леанарда, жанчына схапіла металічны савок, што стаяў каля сценкі і з усяго маху стукнула ім па галаве мужа. Пасля гэтага Марыя схапіла Леанарда за адзежу і прыцягнула яго да сябе. Той не ўтрымаўся на нагах і ўпаў на падлогу ўздоўж ложка. Тады, ахопленая злосцю, Марыя яшчэ раз ударыла мужа саўком па галаве і некалькі разоў стукнула нагой па целе знямоглага. Куды яна біла і колькі разоў, жанчына не помніла. Муж не супраціўляўся і нічога не гаварыў. Затым Марыя кінула савок на кухню і сабралася распаліць печ, але дровы былі сырыя. Яна вярнулася назад у пакой і ўбачыла, што муж усё яшчэ ляжыць на падлозе.

– Да якой пары ты будзеш ляжаць? Уставай! – крыкнула Марыя Леанарду і яшчэ раз ударыла яго нагой.

Але мужчына маўчаў. Некалькі хвілін Марыя пасядзела на канапе побач з Леанардам.

– Можа, цябе на ложак пакласці? – змяніла гнеў на літасць жонка, зразумеўшы, што Леанарду сапраўды дрэнна.

Ён толькі кіўнуў. Пакласці мужа на ложак Марыя не здолела. Тады яна падсунула пад яго галаву падушку, пераапранула мужчыну ў цяплейшую сарочку і накрыла коўдрай. Затым выключыла святло і лягла спаць. Прачнулася Марыя яшчэ на досвітку. Муж у тым жа стане ляжаў на падлозе, толькі ўжо быў накрыты з галавой. Жанчына падышла да Леанарда, зняла з галавы коўдру і ўбачыла, што вочы мужа былі расплюшчаны, а цела было халодным. Страх скаваў яе, яна зразумела, што забіла мужа. У любы момант у хату мог хто-небудзь зайсці, і Марыя перацягнула труп Леанарда ў нежылы халодны пакой, у які ніхто ніколі не заходзіць.

У гэты дзень да Марыі зайшоў сын Павел. Хлопец спытаў, дзе бацька. Марыя сказала сыну, што той паехаў у Свіслацкі раён да брата. На наступны дзень, 30 снежня, жанчына рашыла расказаць пра ўсё сваёй маці. Аднак, прыйшоўшы да яе, Марыя папрасіла толькі лекаў ад прастуды. Старая жанчына запытала ў дачкі, куды падзеўся Леанард. Марыя паўтарыла тое, што сказала і сыну. Але старая адчувала, што дачка хлусіць, бо яе муж ніколі да брата не ездзіў, ды і грошай у іх на дарогу не было. Вечарам маці Марыі прыйшла дамоў да сына Мар'яна і падзялілася сваімі здагадкамі пра тое, што з Леанардам, напэўна, штосьці здарылася. Мар'ян, маці Марыі і Павел у той жа вечар абшукалі увесь надворак Шніпаў, хлеў, падвал, гарышча, але Леанарда не знайшлі. Затым жанчына з унукам зайшлі ў хату Марыі. Яна ляжала на ложку. Калі маці спытала, ці не прыехаў Леанард, Марыя адказала, што, напэўна, ён будзе заўтра. У гэты час Павел заўважыў на посцілцы і падлозе плямы крыві, а каля ложка – бацькавы зімовыя боты. На дарозе дамоў хлопец расказаў бабулі пра гэта, і жанчыне падалося гэта вельмі падазроным.

Раніцай 31 снежня ў Марыіну хату прыйшлі дзве яе дачкі. Дзяўчат цікавіла, ці не прыехаў яшчэ бацька. Пачуўшы адмоўны адказ, яны пайшлі з хаты. Праз некаторы час Марыя таксама выйшла з дома, зачыніўшы з унутранага боку хату праз фортку, якая знаходзілася побач з дзвярыма. Жанчына рушыла на калгасны склад. Тут Марыя сустрэла сваю маці, і яны пайшлі атрымліваць цукар. Свой цукар дачка аддала маці, бо хвалявалася, што калі яны прывязуць яго да яе ў хату, старая можа выявіць труп. Затым Марыя схадзіла дамоў праверыць, ці не прыходзіў хто да яе. Там усё было спакойна, і жанчына рашыла зайсці да суседкі. У гэты час Павел і яго бабуля пайшлі яшчэ раз агледзець хату Марыі. Дома нікога не было, але дзверы былі зачынены з унутранага боку. Тады Павел праз фортку адчыніў дзверы, і яны зайшлі ў хату, рашыўшы агледзець нежылы пакой...

Вярнуўшыся ад суседкі, Марыя ўбачыла, што дзверы былі зачынены не так, як гэта зрабіла яна. Зайшоўшы ў нежылы пакой, жанчына звярнула ўвагу на тое, што коўдра была знята з галавы мужа. " У хаце нехта пабываў... Трэба недзе хавацца", – мільганула думка.

Марыю знайшоў участковы міліцыянер у скірдзе саломы непадалёку ад вёскі і даставіў у мясцовы РАУС. Як адзначыла судова-медыцынская экспертыза, Марыя Шніп нанесла свайму мужу не менш за 35 удараў металічным саўком, малатком, рукамі і нагамі па розных частках цела. Суд прыгаварыў 39-гадовую М. Шніп да 13 год пазбаўлення волі.

**Андрэй ЛІХАРАЙ, в.а. пракурора Зэльвенскага раёна, Наталля ГЛУШЭНЯ**

КУЛЬТУРА

## УНІКАЛЬНАЕ ДАСЛЕДВАННЕ БІБЛІІ ВЫЙШЛА Ў ГРОДНЕ

**У друкарні Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы выйшла ў свет кніга выкладчыка ўніверсітэта Янкі Трацяка пад назвай "Біблія ў кантэксце беларускай культуры".**

Гэта першая ў Беларусі кніга па праблемах даследвання Біблії з беларускага пункту гледжання.

## НАДРУКАВАНЫ НОВЫ СЛОЎНІК

**Руска-беларускі медыцынскі слоўнік пабачыў свет у выдавецтве Гродзенскага медыцынскага ўніверсітэта.**

Аўтар слоўніка – выкладчык кафедры беларускай і рускай філалогіі гэтай навучальнай установы Віктар Варанец.

**ГроднаNEWS**

КРИМИНАЛ

## БОЕПРИПАСЫ ХРАНИЛ В КВАРТИРЕ

**В городе Березовка Лидского района Гродненской области сотрудники межрегионального отдела управления Комитета по борьбе с организованной преступностью и коррупцией при МВД Беларуси и военнослужащие оперативного подразделения Лидского пограничного отряда изъяли в квартире местного жителя 805 патронов калибра 7,62 мм и 1 кг тротила.**

Об этом БелаПАН сообщили в управлении информации и общественных связей МВД.

Сейчас правоохранительные органы выясняют, откуда у 53-летнего жителя Березовки такой арсенал боеприпасов и взрывчатых веществ.

**Вячеслав БУДКЕВИЧ**

АРМИЯ

## ОФИЦЕРОВ УЧИЛИ ПРОФИЛАКТИКЕ ВИЧ/СПИД

**На базе гродненского гарнизона прошел учебный семинар для офицеров органов морально-психологического обеспечения и руководителей групп государственно-правовой подготовки.**

Семинар организован в рамках проекта Фонда ООН в области народонаселения "Повышение качества подготовки офицерских кадров Вооруженных сил Республики Беларусь по вопросам профилактики ВИЧ/СПИД и обучения методике работы среди личного состава".

Как отмечается в пресс-релизе департамента общественной информации Представительства ООН в Беларуси, основная цель мероприятия – подготовка офицерских кадров по вопросам профилактики ВИЧ/СПИД, алкогольной и наркотической зависимости среди личного состава Вооруженных сил Беларуси.

**Андрей МЕЛЕШКО**

ГРОДНО

# ТАМОЖНЯ ДАЛА КАЗНЕ БОЛЕЕ МИЛЛИАРДА РУБЛЕЙ




*Таможенный досмотр, пункт пропуска Каменный Лог, белорусско-литовская граница*

**На сумму более одного миллиарда рублей оценивается сборный груз, задержанный сотрудниками Гродненской региональной таможни.**

Как сообщили БелаПАН в пресс-службе Государственного таможенного комитета, товар следовал из Германии в Россию. Причиной его задержания стало то, что белорусским таможенникам были предъявлены документы, содержащие недостоверные сведения. Московская фирма – получатель товара – была зарегистрирована на подставное лицо, сообщает пресс-служба.

Груз состоял из самого разнообразного оборудования: метеорологического, медицинского (чемоданы для оказания первой медицинской помощи, прибор для проведения вентиляции легких, микроскопы, наборы для определения содержания гормонов и другое). Здесь также были приспособления для подводного плавания, кожгалантерея, детские игрушки, запчасти к автомобилям и даже типографский станок. Всего – около 230 тысяч единиц товара.

По данному факту заведено дело об административном таможенном правонарушении. Дальнейшую судьбу товара определит суд.

**Алексей ОРЕШКО**

## АДМИНИСТРАЦИЯ ЗАВОДА И ИНЖЕНЕР ПРЕДПРИЯТИЯ ОПРЕДЕЛЯЮТ УСЛОВИЯ МИРОВОГО СОГЛАШЕНИЯ

**Условия мирового соглашения определяют сейчас администрация Гродненского РУП "ГЗАА" (завод автоагрегатов) и уволенный в мае этого года по обвинению в хищении деталей инженер-технолог предприятия Владимир Кравцевич.**

Бывший инженер требует либо восстановления в прежней должности, либо изменения формулировки увольнения. Он считает, что настоящей причиной увольнения стала его активная позиция в качестве члена профсоюзного комитета.

Охрана завода задержала Кравцевича 10 апреля этого года, выходящим из проходной с несколькими деталями в кармане: хомутом, двумя болтами и четырьмя гайками. Стоимость деталей, хищение которых было вменено Кравцевичу, составила 454 белорусских рубля. Суд Ленинского района города Гродно признал Кравцевича виновным в хищении, после чего администрация подписала приказ о его увольнении.

Кравцевич настаивает на том, что факта хищения не было. По его словам, детали оказались в кармане случайно. В его обязанности в качестве инженера-технолога входило производить замеры выпускаемых предприятием деталей, и в тот день он просто забыл выложить их из кармана, уходя с работы. Во время судебного заседания 11 июня по рассмотрению иска Кравцевича к предприятию, свидетели – технолог завода Наталья Куприян и начальник участка Александр Яцевич – подтвердили, что обнаруженные детали были не дефицитными и не могли применяться в быту.

По словам Кравцевича, его конфликт с администрацией начался в 2002 году. Тогда инженер-технолог участвовал в комиссии по проверке соблюдения администрацией коллективного договора. Комиссия выяснила, что зарплата на предприятии, выплачиваемая с задержками, вопреки законодательству администрацией не индексировалась. "Идет "зачистка" активных профсоюзных кадров, – так прокомментировал происходящее руководитель Гродненского бюро Международной организации труда Анатолий Хотько. – Предприятие готовится к акционированию, и потому администрация избавляется от определенной категории людей. Людей, которые будут ставить неудобные вопросы".

На судебном заседании 11 июня стороны согласились разработать условия мирового соглашения, однако, на подготовленное администрации письмо с требованиями Кравцевич ответа пока не получил.

**Ирина ЧЕРНЯВКА**

МАСТЫ

## РАБОТЫ МАСТАЎЧАНКІ ТРАПІЛІ Ў ТРАЦЯКОЎКУ

**У Маскве ў Трацякоўскай галерэі адкрылася экспазіцыя мастацкіх работ вучняў Мастоў. На ёй прадстаўлены 70 лепшых малюнкаў.**

Сярод іншых выстаўлена работа выхаванкі дзіцячай школы мастацтваў Кацярыны Кадач пад назваю "Каляды". Гэтая выстава адбываецца ў рамках сусветнай акцыі, якую праводзіць Арганізацыя Аб'яднаных Нацый – "Дзіцячыя малюнкі аб галоўным". Папярэдні адбор праходзіў у Мінску. Канкурэнцыя была вялікая, бо ў конкурсе ўдзельнічалі юныя мастакі з усяе Беларусі. Толькі Мастоўская школа мастацтваў накіравала туды 30 малюнкаў. У выніку журы адабрала 70 лепшых работ, куды і патрапілі "Каляды" Кацярыны Кадач. У Мінску ёй быў уручаны дыплом. У Маскве галерэя будзе дзейнічаць на працягу некалькіх месяцаў, затым кампетэнтнае журы адбярэ лепшыя малюнкі, а пераможцы будуць запрошаны на ўручэнне ўзнагароды. У гэтым годзе Кацярына Кадач закончыла школу мастацтваў з пахвальным лістом.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

МАСТЫ

## ПАБАРАНАВАЎ ЛЕГКАВІК

**У вёсцы Пацавічы трактарыст мясцовага калгаса пры аб'ездзе легкавіка прайшоўся па ім культыватарам.**

Зараз яму давядзецца больш старанна баранаваць у полі, каб сплаціць нанесены ўрон.

## ПАПАЎНЯЮЦЬ БЮДЖЭТ

**Арыгінальным спосабам вырашыла кіраўніцтва Мастоўскай ЖЭГ паправіць свае фінансавыя справы.**

Яно аб'явіла, што існуе недаплата за падагрэў халоднай вады для гарачага водазабеспячэння, і таму, пачынаючы з траўня і ўвесь міжацяплільны перыяд, кватэраздымшчыкам штомесячна будзе выстаўляцца для аплаты вызначаная сума.

Аднак большасць кватэраздымшчыкаў з гэтым не пагадзілася і выставілены разлік выкрэслівае з квартплаты.

## ПЛОТ ПЕРАШКОДЗІЎ

**У вёсцы Правыя Масты на павароце ўладальнік легкавога аўтамабіля не справіўся з кіраваннем і заехаў у плот.**

Здарылася гэта ў сем гадзін раніцы.

Адзін з пасажыраў стаў залохваць збянтэжаную гаспадыню плоту тым, што з'яўляецца міліцыянерам і кіраўніком мясцовага АБЭП. Як патлумачылі ў Мастоўскім РАУС адказныя работнікі, гэтая пасада вакантная, і, увогуле, супрацоўнікі аддзела не маюць ніякага дачынення да дадзенага здарэння.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

ДЗЯТЛАВА

## ТРАГЕДЫЯ НА ДАРОЗЕ

**Непадалёку ад вёскі Савічы Дзятлаўскага раёна адбылося дарожна-транспартнае здарэнне, у выніку якога загінуў 27-гадовы мужчына.**

У яго засталося маленькае дзіця.

## ЗЛОДЗЕІ ЗАЛЕЗЛІ ПРАЗ АКНО

**Жыхар пасёлка Наваельня Дзятлаўскага раёна паскардзіўся ў міліцыю, што невядомыя асобы залезлі праз акно ў яго дом і ўкралі 300 тысяч рублёў, што знаходзіліся ў шафе.**

Міліцыя шукае злачынцаў.

## ПАДЧАС АВАРЫІ ПАЦЯРПЕЛІ ЛЮДЗІ

**Паблізу вёскі Погіры Дзятлаўскага раёна вадзіцель машыны "Жыгулі" хацеў абагнаць грузавік, але раптоўна заўважыў, як насустрач імчаў аўтамабіль, таму ён рэзка ўзяў управа.**

У выніку, "ВАЗ" заехаў у кювет і перавярнуўся. Двое дзяцей і двое дарослых, што знаходзіліся ў машыне ў якасці пасажыраў, атрымалі раненні і трапілі ў бальніцу.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

# НАС БЫЛО ДЗЕСЯЦЬ, А ІХ – 11, ПЛЮС СУДДЗЯ



Фота газеты "Светлы Шлях"

*Погляд на матч с трыбун смаргонскага стадыёна. "Камунальнік" (у светлай форме) абараняецца.*

**"СМАРГОНЬ" — "КАМУНАЛЬНІК" (СЛОНІМ), 1:1 (0:0)**

**15 чэрвеня (нядзеля). Смаргонь. Стадыён "Юнацтва". 3 500 гледачоў.**

**Суддзя:** Ю. Майстраў (Фаніпаль).
**"Камунальнік":** Канашэвіч, Скляр, Вольскі, Горбач, Асіпенка, Варанцоў, Срыбненка (57, Цішчанка), Астапчык (79, Пазняк), Яўсеенка (71, Зюлеў), Аначэнка (К), Місюк.
**Галы:** Валавік, 54; Зюлеў, 85.
**Папярэджанні:** Мазалоўскі, 14; Кукалевіч, 15; Горбач, 33; Валавік, 45; Грамаздзін, 88.
**Выдаленні:** Місюк, 31.
**Удары па варотах:** 17(9+8) – 8(2+6).
**Удары ў "рамку":** 7(3+4) – 4(2+2).
**Вуглавыя:** 9(5+4) – 0.
**Афсайды:** 3(2+1) – 2(2+0).
**Фалы:** 21(9+12) – 26(14+12).

Перш, чым павесці размову аб справаздачнай гульні, трэба крыху расказаць аб умовах, у якіх яна праходзіла. Я маю на ўвазе стан смаргонскага стадыёна і адносіны да футбола мясцовых балельшчыкаў і ўладаў.

Смаргонь зараз рыхтуецца да святкавання свайго 500-годдзя. Горад прыгажэе на вачах, а гарадскі стадыён "Юнацтва" – як люстэрка гэтага пераўтварэння. За два гады кіраўніцтва футбольнага клуба пры падтрымцы мясцовай улады зрабіла са стадыёна "цукерку". На цэнтральных трыбунах усталяваны індывідуальныя пластыкавыя крэслы, пад еўрастыль абсталяваны гасцявая трыбуна, кабінкі для прэсы, суддзі-інфарматара, не кажучы ўжо пра раздзявальні для футбалістаў. Усю цікавую і карысную інфармацыю пра каманду, стан спраў у першай лізе балельшчыкі могуць знайсці на спецыяльным стэндзе. Больш таго, на кожны хатні матч "Смаргоні" друкуецца праграмка, а ўваход на стадыён бясплатны для ўсіх. Некалі і ў Слоніме было нешта падобнае, але куды яно ўсё знікла? Можа таму і балельшчыкі нашыя не такія актыўныя ў падтрымцы "Камунальніка", як гэта робяць фанаты "Смаргоні". А падтрымка трыбун – не апошні козыр у поспеху каманды.

Такім чынам, смаргонцы прайграваць на сваім полі не збіраліся. І ўжо на другой хвіліне гульні нападаючы гаспадароў ударам галавой з межаў штрафной пляцоўкі "Камунальніка" праверыў слонімскага варатара. Канашэвіч згуляў надзейна. (Ён увогуле за ўвесь матч памыліўся хіба толькі некалькі разоў.)

Наступнай пагрозы варотам гасцей прыйшлося чакаць дзесяць хвілін. Але ўдар метраў з 27-мі вялікай небяспекі варотам слонімскай каманды не прынёс. Затое контратака "Камунальніка" атрымалася, як па падручніку. У два пасы слонімцы вывелі на аператыўны прастор Аначэнку. Дзмітрый хутка набліжаўся да варотаў саперніка (злева яшчэ падтрымліваў атаку Срыбненка), калі яго брудна паклаў на газон абаронца "Смаргоні". Суддзя матчу смела мог прызначыць за гэтае парушэнне пенальці, але даў толькі штрафны ўдар з лініі штрафной плошчы гаспадароў поля і паказаў два "гарчычнікі" занадта гарачым абаронцам.

Магутны ўдар Івана Срыбненкі прабіў сценку, але варатара "Смаргоні" не мінуў. Раззлаваныя такім ходам спраў смаргонцы навалiліся на "Камунальнік" і мелі дзве магчымасці павесці ў ліку. Пры гэтым яны не вельмі цырымоніліся з сапернікам на сваёй палове поля. Двойчы яны жорстка збівалі з ног Андрэя Місюка, зрываючы вострыя атакі, але рэферы ліберальнічаў (а можа, проста карткі шкадаваў?). Затое самому Місюку Майстраў не пашкадаваў і чырвоную картку. І з 31-й хвіліны "Камунальнік" зайграў у меншасці, але свае вароты да перапынку ад голу абараніў.

Замены, праведзеныя трэнерскім штабам "Смаргоні" напрыканцы першага тайма, аказаліся недарэмнымі. Гэта зацвердзіў другі тайм, на дзесятай хвіліне якога Аляксандр Валавік (№18) вывеў сваю каманду наперад. Трыбуны ж настойліва патрабавалі ад мясцовых футбалістаў яшчэ і яшчэ галоў. І "Смаргонь" агаліла тылы.

А "Камунальнік", здавалася, толькі гэтага і чакаў. Першы "укол" нанёс Аначэнка, калі прабіў з вострага вугла, і толькі перакладзіна паўстала на шляху мяча ў вароты.

Каб настойлівасць слонімцаў давесці да станоўчага выніку, трэба было выводзіць на поле свежых ігракоў. Што галоўны трэнер "Камунальніка" Барыс Лазарчык і зрабіў. Выхад на замену Пазняка, Цішчанкі і Зюлева дадаў атацы гасцей магутнасці, і гэтая тройца раз-пораз пакідала ў разгубленасці смаргонскіх абаронцаў. А на 85-й хвіліне гаспадарам і ўвогуле прыйшлося пачынаць гульню з цэнтра поля. Прымусілі іх гэта зрабіць усё тыя ж Цішчанка і Зюлеў. Першы моцна прабіў з левага вугла штрафной плошчы "Смаргоні". Гэты мяч варатар здолеў адбіць, але "плямісты" накіраваўся напрамкі на далёкую штангу. А там ужо першым апынуўся Ігар Зюлеў і, апярэдзіўшы абаронцу, літаральна на галаве ўнёс мяч у вароты.

Навала гасцей у апошнія хвіліны сустрэчы і відавочна неаб'ектыўнае судзейства на працягу ўсёй гульні так і не дапамаглі "Смаргоні" перамагчы нават у большасці. А "Камунальнік" змагаўся па-байцоўску, і нічыя – толькі мізэр ад таго, што слонімцы заслугоўвалі ў гэтым матчы.

**Валерый КАВАЛЕНКА, Аляксандр ЗАХАРАНКА (статыстыка)**

**ВЫНІКІ АСТАТНІХ МАТЧАЎ 9-ГА ТУРА:**

| | |
|---|---|
| Ліда – МТЗ-РЫПО, | 1:3 |
| Хімік – Нёман, | 2:1 |
| Вертыкаль – Бяроза, | 1:0 |
| Дынама-Юні – Пінск-900, | 1:2 |
| Тарпеда-Кадзіна – ЗЛіН, | 0:0 |
| Днепр-ДЮСШ-1 – Граніт, | 1:2 |
| Лакаматыў – Ведрыч-97, | 2:0 |

**Турнірная табліца пасля 9-га тура**

| | гульні | В | Н | П | ачкі | мячы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Хімік | 9 | 6 | 2 | 1 | 20 | 15-7 |
| 2. Лакаматыў | 9 | 6 | 2 | 1 | 20 | 14-5 |
| 3. МТЗ-РЫПО | 9 | 6 | 1 | 2 | 19 | 17-5 |
| 4. ЗЛіН | 9 | 5 | 1 | 2 | 19 | 15-5 |
| 5. Граніт | 9 | 5 | 3 | 1 | 18 | 14-7 |
| 6. Ведрыч-97 | 9 | 5 | 1 | 3 | 16 | 14-9 |
| 7. Вертыкаль | 9 | 4 | 2 | 3 | 14 | 6-6 |
| 8. Ліда | 9 | 4 | 1 | 4 | 13 | 15-10 |
| 9. Смаргонь | 9 | 4 | 1 | 4 | 13 | 14-7 |
| 10. Камунальнік | 9 | 3 | 4 | 2 | 13 | 10-8 |
| 11. Нёман | 9 | 3 | 0 | 6 | 9 | 10-19 |
| 12. Тарпеда-Кадзіна | 9 | 2 | 3 | 4 | 9 | 7-11 |
| 13. Пінск-900 | 9 | 2 | 0 | 7 | 6 | 6-16 |
| 14. Днепр-ДЮСШ-1 | 9 | 1 | 3 | 5 | 6 | 5-14 |
| 15. Бяроза | 9 | 1 | 2 | 6 | 5 | 5-20 |
| 16. Дынама-Юні | 9 | 1 | 0 | 8 | 3 | 9-27 |

ПРЕДСТАВЛЯЕМ СОПЕРНИКА

## ИЗМЕНИМ РАВЕНСТВО В СВОЮ ПОЛЬЗУ!

**Матч 10-го тура чемпионата Беларуси по футболу в первой лиге слонимский «Коммунальник» проводит дома в субботу 21 июня против рогачевской команды «Днепр-ДЮСШ-1».**

**Баланс встреч:** +2=2-2, мячи 10:8 (в Слониме: +2=1-0, мячи 8:1).

**Бомбардиры:** Татарашвили – 3; Иванов, Белей – по 2.

Самая крупная победа «Коммунальника» – 5:0 (10.07.1999, Слоним – Савань, Татарашвили (3), Савицкий).

Самое крупное поражение – 0:4 (31.10.1999, Рогачев – Иванов (2), Белей (2)).

Команда из Рогачева (ранее называлась «Днепр», «Рогачев», «Рогачев-ДЮСШ-1») основана в 1971 году. В чемпионатах Беларуси играет с 1992 года, в первой лиге – с 1997 года. В 187-ти матчах: +45=59-83, мячи 212:322. Лучшее место занимала в 1998, 1999 и 2000 годах – 10-е, худшее в 2001 году – 15-е.

Главный тренер команды Виталий Павлов (21.08. 65г.р.) использует состав из опытных игроков и молодых воспитанников рогачевской ДЮСШ. В клубе три вратаря: ветеран лиги Андрей Буглак (33 года; 185 игр, забил 1 гол, пропустил 209 мячей), Андрей Петрушенко (18; 2, -3) и Андрей Рудник (18; 1, -5). Среди полевых игроков постоянно заиграны за «основу» Сергей Бобырев (24; 141, 9), Андрей Яцинович (27; 134, 15), Игорь Коротченко (27; 80, 15), Павел Дойлидов (22; 34, 1), Руслан Белаш (30; 37, 12), Владимир Благодаров (22; 80, 2), поигравший в свое время в Слониме Андрей Адамицкий (26; 31, 3).

Сейчас команда находится в нижней части турнирной таблицы. Но это не означает, что в Слониме рогачевцы сдадутся без боя. В соотношении игр соперников – равенство. Будем надеяться, что оно изменится в пользу «Коммунальника».

Начало игры на стадионе «Юность» в 18.00.

**Александр ЗАХАРЕНКО**

К НАПЕЧАТАННОМУ

## ГДЕ УЗНАТЬ СЕКРЕТ «ЖИВОЙ» И «МЕРТВОЙ» ВОДЫ

**В прошлом номере «ГС» (№24 от 12 июня 2003 года) в статье «Живая» и «мертвая» вода» рассказывалось о Георгии Дмитриевиче Лысенко и его занятиях народной медициной.**

В редакцию «ГС» после публикации стали обращаться слонимчане с просьбой помочь связаться с Георгием Лысенко. Он согласился дать свои координаты.

Тот, кто обратится к нему по телефону 2-09-95, получит консультацию (бесплатно) по интересующим вопросам: схемы и чертежи прибора для изготовления воды, методика лечения и профилактического применения и так далее.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ФУТБОЛ. ЧЭМПІЯНАТ ВОБЛАСЦІ

# НЕ ПРАЙГРАЛІ І ЗАСТАЛІСЯ Ў ЛІДЭРАХ ЧЭМПІЯНАТУ



Фота Валерыя КАВАЛЕНКІ

*Гульня на адбой у выкананні лідчан (момант першага тайма)*

**ФК "СЛОНІМ" — ФК "ЛІДА", 2:2 (0:0)**

**14 чэрвеня (субота).**
**Слонім.**
**Стадыён "Дынама".**
**150 гледачоў.**

**Суддзя:** Ю. Фралоў (Ваўкавыск).
**ФК "Слонім":** Аснін, Сямёнаў (К), Дабрыян, Боцік, Снапко, А. Дзегіль, Герасімчык, Рудзько, Малчанаў (Ракуць), Зюлеў (Цімафейчык), Захажэўскі (Нічыпаровіч).
**Галы ФК "Слонім":** Сямёнаў, 63 з пенальці; А. Дзегіль, 78.

Першы тайм чарговага матчу чэмпіянату Гродзенскай вобласці з удзелам ФК "Слонім" нічым не парадаваў нешматлікіх балельшчыкаў. Неасэнсаваная гульня не магла задаволіць і саміх футбалістаў каманды.

Затое лідчане, відаць, адчувалі сябе амаль што як дома і рашуча ішлі наперад. Да перапынку яны здолелі стварыць шэраг небяспечных момантаў ля варотаў слонімцаў. Але гасцям не шэнціла з дакладнасцю выканання апошняга ўдару, ды наш варатар Аснін некалькі разоў выратоўваў сваю каманду ад немінучага гола.

А што здолелі супрацьпаставіць напору гасцей слонімцы? Так, было жаданне згуляць у камбінацыйны футбол. Ды толькі чаго яно, гэтае жаданне, вартае, калі ў першым тайме, бадай што, толькі аднойчы гаспадары маглі рэальна вызначыцца, — за некалькі хвілін да перапынку Захажэўскі выйшаў сам-на-сам з варатаром "Ліды", але паспяшаўся з ударам.

Сумныя нулі на табло правадзілі каманды на перапынак.

Другі тайм атрымаўся больш весялейшым. Каманды абменьваліся атакамі, і адна з іх скончылася тым, што слонімцы зарабілі пенальці. Упэўнена выканаў яго капітан ФК "Слонім" Сямёнаў.

Прапушчаны гол прымусіў актывізавацца гасцей. І ўжо праз некалькі хвілін яны зраўнялі лік, а неўзабаве і выйшлі наперад, 1:2. Становішча фаварытаў матчу і гаспадароў поля не дазваляла слонімцам здацца. Але ж і перамагчы не атрымалася. Усё, на што стала сіл, гэта давесці гульню да нічыйнага выніку, 2:2.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

**Турнирная таблица**

| | | игры | В | Н | П | мячи | очки |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | ФК "Слоним" | 6 | 4 | 2 | 0 | 17-4 | 14 |
| 2. | СК "Волковыск" | 6 | 4 | 1 | 1 | 14-5 | 13 |
| 3. | "Химик" (Гродно) | 5 | 3 | 2 | 0 | 10-3 | 11 |
| 4. | "Химволокно" | 5 | 3 | 2 | 0 | 8-3 | 11 |
| 5. | "Белкард" (Гродно) | 6 | 3 | 1 | 2 | 14-6 | 10 |
| 6. | "Надежда" (Ивье) | 6 | 3 | 1 | 2 | 10-5 | 10 |
| 7. | Сморгонь | 5 | 2 | 1 | 2 | 7-4 | 7 |
| 8. | СК "Лида" | 5 | 1 | 3 | 1 | 13-6 | 6 |
| 9. | "Коммунальник" (Щучин) | 5 | 1 | 2 | 2 | 7-10 | 5 |
| 10. | "Неман-2" (Мосты) | 6 | 1 | 1 | 4 | 4-11 | 4 |
| 11. | "Прамень" (Гродно) | 5 | 1 | 0 | 4 | 3-25 | 3 |
| 12. | "Нива" (Дятлово) | 5 | 0 | 1 | 4 | 1-11 | 1 |
| 13. | "Волна" (Зельва) | 5 | 0 | 1 | 4 | 3-17 | 1 |

СТРЫТБОЛ

## ЖЫЦЦЁ Ў СПОРЦЕ — БЕЗ АЛКАГОЛЮ І НАРКОТЫКАЎ!

**Менавіта пад такім дэвізам прайшлі спаборніцтвы па стрытболу ў спартзале слонімскай ДЮСШ №1. Паўтара дзесятка мацнейшых каманд Слоніма і раёна аспрэчвалі на гэтым турніры званне пераможцы.**

Гульні праходзілі цікава, напружана і падчас непрадказальна. А адной з нечаканасцей стала трэцяе выніковае месца юнакоў (1985-86 гг. н.) з Новадзевяткавіч, якія напачатку сустрэчы, выйграваючы ў каманды "Энка" (на базе СШ №9) з лікам 9:4, у выніку прайгралі, 9:11. Зайздросная воля да перамогі вывела каманду "Энка" на другое месца. А пераможцамі сталі юнакі з СШ №5. Яшчэ адзін сюрпрыз паднеслі хлопцы 1987-90 гадоў нараджэння з Рахавіцкай школы. У фінальным матчы яны перайгралі каманду з Новадзевяткавіч, 16:11.

Перамогу рахавічцам прынеслі ўдалыя праходы пад шчыт, упэўненая гульня цэнтравога, трапныя атакі здалёк. На трэцім месцы ў гэтай узроставай групе заняла каманда СШ №8.

Дзявочы турнір у чарговы раз выйгралі вучаніцы Рахавіцкай СШ. Аказаць супраціўленне ім паспрабавалі каманды СШ №2 (2-е месца) і СШ №7 (3-е месца).

Пераможцы турніру атрымалі грашовыя прэміі, а ўсе прызёры — дыпломы адпаведных ступеняў ад аддзела па фізічнай культуры, спорту і турызму Слонімскага райвыканкама.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

ФУТБОЛ

## НАЧАЛО ЧЕМПИОНАТА

**В первые дни лета стартовал чемпионат Слонимского района по футболу. На настоящий момент (17 июня) сыграно десять матчей. Приводим их результаты:**

| | |
|---|---|
| КБЗ — ДЮСШ-Альбертин, | 3:2 |
| Газовик — РОВД, | 5:2 |
| к-з Дзержинского — Телкон, | 3:1 |
| КБЗ — Газовик, | 1:3 |
| ДЮСШ-Альбертин — к-з Дзержинского, | 6:3 |
| РОВД — к-з 1 Мая, | 12:0 |
| Телкон — к-з Ленина, | 9:2 |
| к-з Ленина — к-з 1 Мая, | 3:0 |
| КБЗ — РОВД, | 0:3 |
| Газовик — к-з Дзержинского, | 3:1 |

Лучшими бомбардирами по итогам прошедших игр являются Дмитрий Канивега и Сергей Ничипорович. Они забили по пять мячей.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ШАШКІ

## ПЕРАМОГА МІНУЛА СЛОНІМЦАЎ

**Каманда Слоніма прыняла ўдзел у XII-ым рэспубліканскім шашачным турніры памяці Героя Савецкага Саюза А. К. Гараўца, які адбыўся ў Віцебску.**

Напачатку слонімцы доўгі час трымаліся ў лідэрах, але пройгрыш камандзе гаспадароў адсунуў юных слонімскіх шашыстаў на другое месца ў турніры.

У складзе нашай каманды гулялі вучні сярэдняй школы №9 Маргарыта Батура, Эдгар Варданян, Андрэй Мацявін і Віктар Міско.

Прычым, Мацявін і Міско на сваіх дошках былі лепшымі.

**Аляксандр ЗАХАРАНКА**

БОКС

## ЧАРГОВЫ ПОСПЕХ МАСТАЎЧАН

**Днямі прайшоў адкрыты чэмпіянат Гарадзенскага раёна па боксу.**

У спаборніцтвах прынялі ўдзел каманды з Брэста, Ліды, Слоніма, Жабінкі, Астраўца, Смаргоні, Мастоў, Скідаля і 3 каманды з Гродна.

Паспяхова выступілі мастаўчане. Яны здабылі 4 першых і два другіх месца. Чэмпіёнамі сталі Сяргей Рымко, Вадзім Паўлаў, Дзмітрый Таўрыловіч і Аляксей Бабіч. Серабро здабылі Арцём Літвінаў і Максім Касцечка. Сяргей Рымко і Вадзім Паўлаў былі яшчэ ўзнагароджаны граматамі за лепшую тэхнічную падрыхтоўку. Рыхтаваў каманду трэнер Аляксандр Лейчонка.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## В РАЗДУМЬЯХ О НЕСОДЕЯННОМ

**Неудачи Майка Тайсона на ринге, похоже, не влияют на его умение эпатировать заокеанскую публику.**

Минувшей ночью он в интервью телеканалу "Fox" снова заявил, что не совершал изнасилования Дезире Вашингтон, однако теперь, после того как со времени скандала прошло уже более десяти лет, он очень жалеет, что не сделал этого.

"Она превратила мою жизнь в полную неопределенность, — пожаловался Тайсон. — Конечно, стоит ее за это все-таки изнасиловать". Напомним, что суд в тысяча девятьсот девяносто втором году приговорил Тайсона к шести годам тюрьмы за якобы совершенное изнасилование в Индианаполисе. Майк отсидел три года, а затем был выпущен досрочно.

**news.sport-express.ru**

БАСКЕТБОЛ

## ПАМЯТНИК ДЛЯ МЭДЖИКА

**Двадцать четыре года прошло с того момента, когда Мэджик Джонсон привел команду Мичиганского университета к первой в ее истории победе в чемпионате студенческих команд.**

Теперь руководство университета решило увековечить имя великого баскетболиста, установив ему памятник, открытие которого намечено на 1 ноября.

Любопытно, что работать над памятником будет Омри Амрани, уже создавший изваяние другой звезды заокеанского баскетбола — Майкла Джордана.

**news.sport-express.ru**

ТЕННИС

## СКОРОСТЬ ПОДАЧИ — 236,6 км/ч!

**На теннисном турнире в Лондоне американец Энди Роддик сумел установить новый рекорд этого соревнования в скорости подачи.**

В шестом гейме третьего сета радар зафиксировал скорость подачи в 147 миль в час, что составляет 236,6 км/ч.

Это второй результат в истории. Рекордная же подача принадлежит Грегу Руседски — 239,8 км/ч (установлено в Индиан-Уэллсе, 1998).

**Reuters**

**ЦИФРЫ ПО ПОВОДУ**

- А.Вольский сыграл 105-й матч в лиге, А.Тищенко — 60-й. За клуб 45 игр провел П.Евсеенко, 35 — А.Вольский, 30 — А.Осипенко, 25 — С.Скляр.
- «Коммунальник» 55-й раз закончил встречу вничью. Причем, 1:1 — самый распространенный счет среди ничьих (26 матчей). 23 игры заканчивались 0:0, 6 встреч — 2:2.
- И.Зюлев оказался 19-м футболистом, отличившимся после выхода на замену. Так он отличился впервые, забив 36-й командный гол. В этой номинации лидирует Г.Татарашвили — 7 мячей, Д.Огородник — 4, В.Дегиль, А.Мисюк, В.Цыганенко — по 3.
- М.Горбач получил 5-е предупреждение за годы выступления в лиге. А.Мисюк удален с поля впервые.
- Мяч, забитый в прошлом туре в ворота «Коммунальника» Г.Татарашвили, стал 10-м в слонимские ворота, автором которого явился бывший игрок команды. До этого нам забивали: А.Лебецкий(КПФ – «Химволокно», 2:3, 1993/94), А.Толмач («Динамо-Юни» — «Коммунальник», 2:1, 1999), В.Зубач («Коммунальник» — «Керамик-Береза», 0:1, 1999; «Коммунальник» — «Береза», 1:4, 2001), Ю.Никиточкин («Коммунальник» — «Гранит», 3:1, 1999; «Коммунальник» — «Свислочь», 3:2, 2001), Н.Дым и С.Куприков («Химик» — «Коммунальник», 4:1, 2001).

**Александр ЗАХАРЕНКО**



*Вот и встретились: он и она...*

Фота Віталя ГІЛЯ





Фота Віталя ГІЛЯ

## ПРОГНОЗ ПОГОДЫ по Гродненской области

**18 июня:**
Переменная облачность, без осадков, ветер устойчивый слабый, температура воздуха ночью +3+8, на почве местами слабые заморозки 0-2, днем +17+22.

**19 июня:**
Переменная облачность, без осадков, ветер устойчивый слабый, температура воздуха ночью +4+9, днем +19+24.

**20 июня:**
Облачно с прояснениями, ночью на большей части, днем местами кратковременные дожди, ветер западный 6-11 м/с, порывы до 14 м/с, температура воздуха ночью +8+13, днем +17+22.

Информацию предоставил Гроднооблгидрометеоцентр


**Газета Слонімская**
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.

ЗАСНАВАЛЬНІК
**Віктар ВАЛАДАШЧУК**
ВЫДАВЕЦ
**УП "ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ"**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**
Віктар ВАЛАДАШЧУК
**НАМЕСНІК ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА**
Сяргей ЧЫГРЫН
**АДКАЗНЫ САКРАТАР**
Мікола КАНАНОВІЧ
**ЖУРНАЛІСТЫ**
Вольга ШЫНКЕВІЧ
Валерый КАВАЛЕНКА
**ФОТАКАРЭСПАНДЭНТ**
Віталь ГІЛЬ
**ЮРЫСКАНСУЛЬТАНТ**
Сяргей ГЕРАСІМЧЫК
**ГАЛОЎНЫ БУХГАЛТАР**
Аляўціна СІДАРАВА
**БУХГАЛТАР**
Ганна ВАРАНОВІЧ
**ВЁРСТКА І ДЫЗАЙН**
Аляксей ГАРАЙНАЎ
Аляксей ВАРАНОВІЧ
**КАРЭКТАР**
Галіна КЛІНЦЭВІЧ
**АДДЗЕЛ ПАДПІСКІ І РАСПАЎСЮДЖВАННЯ**
**Загадчык:**
Анатоль ВАЛАДАШЧУК
**Супрацоўнік:**
Валерый КАРАБЕЙНІКАЎ

**Тэлефоны рэдакцыі:**
**2-14-39, 2-49-39, 4-79-34**

**Наш адрас:**
**231800, г.Слонім, вул. Камсамольская, 8.**





**e-mail:** gs@promedia.by
**http:**//gs.promedia.by

**ГРАФІК ПРЫЁМА РЭКЛАМЫ:**
**Панядзелак - пятніца**
з 9$^{00}$ да 18$^{00}$;
**Нядзеля**
з 11$^{00}$ да 16$^{00}$
**Выхадны — субота**

Апошні тэрмін падачы рэкламы ў чарговы нумар і ўнясенне зменненяў у рэкламу
**Панядзелак — 18$^{00}$**

**Падпісныя індэксы:**
***64042*** **(індывідуальная)**
***63818*** **(ведамасная)**
***63646*** **(льготная)**

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.
Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Рэдакцыя таксама не адказвае за змест рэкламы.

© «Газета Слонімская» Спасылка на «ГС» абавязковая

(К) Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

**Падпісана да друку**
17 чэрвеня 2003г.
Час падпісання 18:00.
Заказ № **1885**

**Надрукавана**
ў Гродзенскім абласным унітарным прадпрыемстве "Слонімская друкарня",
г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.
Аб'ём — сем друкаваных аркушаў